Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

Цана асобнага нумару 50 гр.

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:
за год . . . . 5 зл.
за паўгода . . 3 зл.
за тры месяцы 1 зл. 50 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністр.
Вільня, Вострабрамска 9-22.

Рэдакцыя прыймае ў справах часопісі ад 11 — 1 што дня, апрача сьвят.

# САХА

Беларускі месячнік сельскае гаспадаркі і коопэрацыі,

Выдавецтва Цэнтральнага Саюзу Беларуск. Культурна-Асьветных і Гаспадарчых Арганізацыяў і Інстытуцыяў.

№ 5 (9) | Вільня, травень-чэрвень 1931 г. | Год II.

## ЗЬМЕСТ:



Друкарня А. Дворжэца, Вільня, Завальная 32.

# Варункі прыйма у Беларускую Дзяржаўную Сэмінарыю.

Да ўступнага экзамену на I курс Дзяржаўнай Вучыцельскай Сэмінарыі ім. Фр. Багушэвіча ў Вільні можа быць дапушчаны той, хто скончыў 7 аддз. пачатковае школы ці 4 кл. гімназіі і ня мае ў дзень 31 жніўня 1931 г. болей 17 год.

Кантрольныя экзамены адбудуцца ў восені 1, 2, і верасьня з наступных прадметаў: 1. Польскае мовы (пісьменны – дыктоўка і вусны — чытаньне, апавяданьне і граматыка ў засягу праграмы пачаткавае школы), 2. Беларускае мовы (пісьменны і вусны — так сама, як з польскае мовы), 3. Арытмэтыка (вусны і пісьменны — задачы на ўсе чатыры дзеяньні з звычайнымі і дзесяткавымі дробамі, а такжа працэнтныя аблічэньні, 4. Здольнасьці слуху (пяяньне)

З'явы аб дапушчэньні да экзамену прыймацьмуцца ў канцэлярыі Сэмінарыі да 20 жніўня г. г. уключна.

Да заявы трэба далучыць: 1) мэтрыку нараджэньня, 2) уласнаручна напісаны жыцьцярыс, 3) пасьведчаньне аб паўторным прышчэпе восны, 4) апошняе школьнае пасьведчаньне, 5) дзьве фотаграфіі.

Перад дапушчэньнем да экзаменаў адбудзецца лекарскі агляд стану здароўя, кандыдатаў(так) дзеля сьцьвярджэньня здольнасьцяў, патрэбных для вучыцельскай прафэсіі.

УВАГА: Усялякія фізычныя калецтвы, як вонкавыя, так і ўнутраныя хваробы, напр. сухоты, а таксама недахопы ў мове, будуць станоўчай перашкодай у прыйме ў Сэмінарыю.

Сэмінарыя—коэдукацыйная (мяшаная) Пры Сэмінарыі існуюць інтэрнаты для хлапцоў і дзяўчат. Найздальнейшыя, а незаможныя вучні могуць рабіць захады аб атрыманьні ўрадовай стыпэндыі ў суме 40 зл. месячна. Плата ў інтэрнатах выносіць 60 зл. у месяц. Плата за навуку 20 зл. у паўгодкі. Апроч таго 2 зл. у паўгодкі за лекарскую помач.

Кандыдаты(кі) на II курс павінны здаваць экзамены з усіх прадметаў.

Год II

# САХА

№ 5

БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ І КООПЭРАЦЫІ

*Вільня* *Травень — Чэрвень* *1931*

## Сельска-гаспадарчая асьвета - наш ратунак.

Зямляробская дзеяльнасьць чалавека можа адна з найбольш складных і найбольш вымагае працы розуму. Тут чалавек мае справу як з жывымі істотамі, так і мёртваю прыродаю. І вось пакуль знаходзіцца ў жывой прыродзе шмат неразгаданага, пакуль чалавек ня ведае ўсіх тайніц жыцьця, прыходзіцца нават асьвечанаму земляробу ісьці часта вобмацкам у сваей гаспадарчай дзеяльнасьці. Нават такая чыстая ральля ня ёсьць мертваю, — у ёй знаходзяцца міліярды розных драбненькіх арганізмаў, якіх простым вокам нельга ўбачыць, і якія працуюць на карысьць або на некарысьць хлебароба.



Здавалася-б, што сельска-гаспадарчай дзеяльнасьцю павінна-бы заняцца найбольш асьвечаная, найбольш здольная частка людзтва. Тым часам у запраўднасьці ёсьць іначай, — найбольш разьбітныя і найбольш здольныя вяскоўцы пакідаюць ральлю, ідуць у места, займаюцца іншаю працаю, а то нават і эмігруюць. А тыя, што застаюцца ў вёсцы працуюць так, як іх бацькі і дзяды працавалі, не разважаючы чаму тое так, а не йначай, ня шукаючы прычынаў добрых і кепскіх ураджаяў, не заглядаючыся ў тайніцы прыроды. А калі-б нават у каго магла паўстаць такая зацікаўленасьць, то яна не абудзіцца, дзякуючы беднаце і забітасьці нашага селяніна. На ўсё гэта ў нас маюцца свае прычыны і палягаюць яны ў арганізацыі грамадзянства і г. д. Але апошняе пытаньне не ўваходзіць у зарыс нашага заданьня і мы на ім затрымоўвацца ня будзем.

Нашым заданьнем зьяўляецца паказаць той шлях, па якім ідучы можна пазнаць прыродныя законы і, потым па-

знаўшы, выкарыстаць іх для палепшаньня свайго дабрабыту.

Найгалаўнейшае, на што асаблівы націск павінен паставіць наш селянін — гэта рацыяналізацыя (разумнае вядзеньне) нашае сельскае гаспадаркі. Разумнае вядзеньне гаспадаркі магчыма толькі тады, калі гаспадар наш будзе разумець тое, што робіць, калі будзе знаць прычыны зьявішчаў, карацей-жа кажучы, калі будзе знаць прыродныя законы.

Як гэта ня дзіўна, эўрапэйскаму селяніну толькі знаньня не патрабуецца для падняцьця свайго дабрабыту, чым нашаму селяніну. Дзе эўрапэйскі селянін недахоп пажыўных складнікаў у глебе можа лёгка дапоўніць высокай падачай штучных гнаёў, а кепскую будову глебы лёгка можа паправіць удасканаленымі машынамі, там наш селянін можа прыкласьці толькі свой розум і працу, каб патрэбная колькасьць пажыўных складнікаў у глебе вытварылася сама пад уплывам прыродных сілаў. Тое што аплачваецца эўрапэйцу, не заўсёды аплаціцца нашаму селяніну. А гэта дзеля таго, што вырабы эўрапэйскага сялянства маюць там-жа на месцы добры збыт (маюцца вялікія прамысловыя цэнтры). Знача, каб нашаму селяніну канкураваць з эўрапэйскім, трэба прадаваць свае прадукты на столькі таней, сколькі выносяць кошты перавозу і пасярэдніцтва, ня кажучы ўжо аб высокіх мытных паборах, якімі эўрапэйскія дзяржавы ахоўваюць свой краёвы с.-гаспадарчы выраб ад канкурэнцыі.

Адсюль вывад, што нашаму селяніну не аплаціцца гнаіць сваё поля такою колькасьцю штучных гнаёў, як гэта робіць эўрапэйскі селянін. У нас можна гнаіьц штучнымі гнаямі толькі там, дзе яны ў вялікай меры павышаюць ураджай. Да таго, колькасьць даванага штучнага гною ня можа быць такою вялікай, якую звычайна кладуць эўрапэйскія сяляне, бо надвышка гэта ўжо нам у патрэбнай колькасьці не павысіць ураджай.

У нашых умовах трэба дасягаць павышэньня ўраджаяў умелай апрацоўкай, каб самі прыродныя сілы вытварылі ў глебе патрэбную колькасьць для расьліны пажыўных складнікоў.

Гэтай мэце будзе таксама служыць правільнае чаргаваньне расьлінаў, увядзеньне ў севазварот большай колькасьці матылякветных расьлінаў (канюшына, люцэрна, га-

рох, лубін і г. д.), а таксама і кораньплодаў, прадукаваньне больш хлеўнага гною і разумнае яго выкарыстоўваньне, скарыстаньне для ўгнаеньня торфу і т. п.

З гэтага ўсяго відаць, якое важнае значэньне для нашага вяскоўца мае с.-гаспадарчае знаньне. А дзеля гэтага гаспадарчыя кніжкі і журналы павінны стаць найбліжэйшымі прыяцелямі селяніна. Нажаль, апрача «Сахі», у беларускай мове тут нічога ня выдаецца. Дык няхай кожны сьвядомы селянін спрычыніцца да таго, каб «Саха» ня толькі магла выходзіць рэгулярна, але, каб пры ёй час-ад-часу можна было выдаць брашурку аб сельскай гаспадарцы, ці сельска-гаспадарчы календар.

*С. Б.*



# З прац коопэратыўнага пісьменьніка Шарля Жыда.

## Чаму зыск павінен зьгінуць? *).

Імкненньне да зыску сягоньня ёсьць яшчэ галоўнаю рухаючаю сілаю цэлай гаспадарчай дзеяльнасьці, нават амаль што ўсіх грамадзкіх узаемаадносінаў. З тае прычыны можна прыняць, што адкіненьне гэтай рухаючай сілы зьмяніла-б нашыя жыцьцёвыя ўмовы, а нават і характар нашай цывілізацыі.

Што за наіўнасьць дапушчаць, аднак — так нам могуць сказаць — што імкненьня да зыску калісьці магло-б зьнікнуць з твару зямлі! Хіба людзі стануць калі ангеламі?

Відаць, не. Але і не запярэчыць ніхто, што пагоня за зыскам спыніць сваё існаваньне, калі ня стане болей выпадку і магчымасьці рабіць зыскі.

Яшчэ балей, калі разгледзімся ў тэорыях эканамістаў розных кірункаў, ня толькі ў творах сацыялістаў і коопэратараў, то знойдзем там гэнае дапушчэньне пра пагібель зыску і то нават у тэорыях клясычных аўтараў, вось амаль-жа ва ўсіх школах. Можна сказаць нават балей, што гэта ёсьць адзіны пункт, адносна якога існуе згода ўсіх. Хаця як ня дзіўнае гэнае цьверджаньне, то яго аднак лёгка даказаць.

*) З „Кооп. Респ.“ (№ 3, 1931 г.), укр. пераклад з ням. кніжкі „Der Kooperatismus“.

Заглянем наперад да навукі ліберальнай школы грамадзкай экономіі. Яна верыць у неабмежанае пашырэньне канкурэнцыі аж да таго дня, калі будзе даведзена да крайніх межаў. Таго дня — так кажуць ліберальныя эканамісты, прыкл. дэ Молінарі, зьнікнуць усе слабасьці, якія прыпісваюць сыстэме вольнае канкурэнцыі, і якія ласьне ня ў ёй пялягаюць, але толькі ў няспраўным функцыянаваньні тае сыстэмы.

Запраўды мы не падзеляем гэтае думкі, але дапусьцім, што канкурэнцыя аднаго прыгожага дня стала праведзенай поўнасьцю. Што тады сталася-б? — Зьгінуў-бы зыск.

Бо насьледкам канкурэнцыі ёсьць зьніжэньне цэнаў тавараў да межы коштаў вырабу; яна адкідае гэтую надвыжку, гэты дадатак, які называюць зыскам. Гэта старая і ўсімі прызнаная праўда, урэшце вядомая ўсім гандляром і прамыслоўцам.

„Тут няма чаго зарабіць, канкурэнцыя за вялікая“ — гэта ёсьць сказ, які раз-по-раз чуваць у штодзенным жыцьці.

Урэшце існуе эканамічны закон, вельмі добра ведамы ўсім эканамістам, Карлу Марксу таксама, як Паўлу Леруа-Боліе, так званы „закон спадаючай нормы зыску“, які па іх пагляду мае сілу ва ўсіх краінах. Згодна з тым законам — вялічыня зыску мае тэндэнцыю трымацца якоесь мяжы. Хаця нас матэматыкі і вучаць, што прагрэсія ў бязмежнасьці можа прыбліжацца да нуля, не даходзячы да яго ніколі, то такое зьявішча, калі яно існуе запраўды, дае нам новы доказ праўдзівасьці нашае думкі пра адміраньне зыску.

Перайдзём да коопэратыўнае навукі. Што такое спажывецкая коопэрацыя? Аб'яднаньне спажыўцоў, якія, не жадаючы далей даваць падарункаў гандлярам хлеба, кавы, цукру і г. д., аб'едныяваюцца для таго, каб закупляць для сябе гэныя тавары, па цане ўласных коштаў і такім спосабам зьніжваць прыбытак прадаўцоў, або яго — што на адно выходзіць — палажыць у свае ўласныя кішэні. Тавары ў коопэратыве прадаюцца для агулу па тых самых цэнах, што і ў купцоў; але розьніца паміж прадажнаю цаною і ўласнымі коштамі вяртаецца назад да сяброў у форме таварных зваротаў. Такім спосабам зыск зварочваецца да пакупшчыка, які да паяўленьня яго спрычыніўся. Прырода і паходжаньне зыску тут, як на далані.

У меру таго, як расьце спажывецкі коопэратыў, ён не абмяжоўваецца да самога толькі гуртовага гандлю — ён прыступае да вырабу, каб атрымліваць патрэбныя яму тавары па прадукцыйных цэнах. Такім чынам, адкінуўшы прыбытак гандляра, ён робіць тое самае з прыбыткам прадуцэнта. Спажыўцы становяцца сваімі ўласнымі гандлярамі і прадуцэнтамі, каб не збагачваць ні адных ні другіх.

Таму *найлепшаю дэфініцыею спажывецкага коопэратыва* — урэшце таксама гэта адносіцца і да ўсіх іншых родаў коопэратываў, прадукцыйных, крэдытных, будаўляных — будзе: *гэта ёсьць аб'яднаньне з мэтаю ўдарэмненьня зыску.* Але што-ж тады пакідае коопэратыў капіталу? Цалком проста — тое, што цяпер капіталіст дае работніку: права на жыцьцё, амортызацыю і апрацэнтаваньне, гэта ёсьць тое, што ёсьць патрэбным і дастачным дзеля таго, каб капітал мог існаваць і аднаўляцца — падобна як работніку „мінімум экзыстэнцыі“ дае магчымасьць існаваць і прадоўжваць сваё існаваньне. Гэта быў

урэшце асноўны пункт праграмы Оуэна, якога з поўным правам лічаць бацькам коопэрацыі.

Вось-жа няма права казаць, што адкінуць зыск, немагчыма. Наадварот — гэта ёсьць умоваю для злучэньня абодух формаў гаспадараваньня, якія ўрэшче стаяць рашуча супроць сябе: абсалютнай свабоды канкурэнцыі і поўнага супольніцтва (супрацоўніцтва, коопэрацыі). Гэта ёсьць годны да зьдзіўленьня і шматгаворачы зьбег абставін — калі разглянуць, як гэтыя дзьве на пагляд такія розныя дарогі грамадзкага разьвіцьця прыводзяць літэральна да тае самае мэты, усё роўна якімі сьцежкамі абедзьве гэтыя дарогі вандруюць. Якая-б ня была будучнасьць, доля прыбытку ёсьць вырашана! Жагнай на векі прыбытак!

Ня гледзячы на ўсё тое, што я сказаў, я сьведамы таго, што такое цьверджаньне — што прыбытак таксама ў чыста коопэратыўнай гаспадарцы, як таксама пры поўнай канкурэнцыі зыйдзе да нуля — выкліча зьдзіўленьня.

Першыя затрасуць галавамі гандляры. Яны будуць гаварыць: гэта нонсэнс, немагчымая і несправядлівая рэч! Калі-б ня было балей зыску, ня было-б ніякага прадпрыемства, ніхто не залажыў-бы ніякага прадпрыемства там, дзе ня можа нічога зарабіць; апрача таго было-б наагул несправядліва, калі-б прадпрыемцы працавалі дарма.

Аднак тыя, ад каго выходзіць гэты закід, забываюць тое, што сказалі мы трохі вышэй, а ласьне, што нагарода за працу самога прадпрыемцы і за ўлажэньня яго капіталу знаходзіцца ўжо паміж коштаў вырабу (лас. павінна быць там вырахавана), вось-жа ўсуненьне зыску, калі-б наступіла, не зачапала-б гэтае справы. Калі прадпрыемца ў самай рэчы: 1. атрымоўвае заплату за сваю кіраўнічую працу і 2. бярэ працэнт на капітал дый якійсьць зыск, па над гэта? На якой праўнай аснове ён можа абаперціся. І калі якаясь новая гаспадарча сыстэма, няхай гэта будзе абсалютная свабода канкурэнцыі або коопэрацыя, адбірае ў яго гэты дадатковы барыш, то якое ён мае права скардзіцца на гэта? Бязумоўна, ён траціць зыск, які цягне з свайго манаполю, дык яму застаецца ўцеха, што і іншых спаткала тое самае, што і яго: што мусіць жыць толькі з працы сваей дый з даходу ад свайго капіталу.

Хіба-ж няма (ня кажам ужо аб коопэрацыі) такіх прамысловых супалак, якія існуюць, хаця і не даюць дывідэндаў? Кампанія, якая існуе і прадукуе, хоць ня дае дывідэнду, гэта тое самае, што прадпрыемца, каторы жыве і прадукуе, хоць не атрымлівае прыбыткаў.

А страт не рахуеце? — скажуць мне людзі інтарэсу. Я аб гэтым не забываю, аб гэтым я казаў — ужо ў раздзеле аб забязпечаньні, але кажу, што: 1. забязпечаньне ад стратаў пры добрым рахаўніцтве ўкалькулёўваецца пры аблічэньні ўласных коштаў, 2. прыймаючы, што настане раўнавага паміж прадукцыею і спажываньнем — да чаго ласьне імкнемся — страты будуць проста выключаны; яны зьнікнуць у той-жа час і з тых-жа прычынаў, што і зыск, таксама, як на моры пасьля буры зьнікаюць долы і прорвы паміж хвалямі з таею хвілінаю, калі супакояцца хвалі.



# Дагляд за жарабятамі.

Найкарысьней адсаджваць (адлучаць) жарабят на 3—4-м месяцы ад народжаньня. У жарабят слабейшых можна гэты тэрмін працягнуць да 5—6 месяцаў. Адсаджваньня жарабят ёсьць два спосабы: паступовы і раптоўны. Раптоўнае адсаджваньне найчасьцей практыкуецца там, дзе спэцыяльна займаюцца гадоўляй коней (конныя заводы). Спосаб гэты палягае ў тым, што пэўнага дня жарабя забіраюць ад маткі і балей да яе ня пушчаюць.

Паступовае адсаджваньне ёсьць болей рацыянальным. Па адсаджаньні трэба дбаць, каб жарабяці даваўся адпаведны корм, іначай жарабя вельмі схудзее і на вясну вельмі цяжка і доўга не папраўляецца. Мала таго, пры неадпаведнай гадоўлі правільна не разьвіваюцца ўсе часьці цела. Корм павінен быць найлепшай якасьці, — ня можна даваць сена з квасных сенажацьцяў (асакі і траў без каленцаў), бо такое сена ня толькі мала пажыўнае, але яшче можа мець у сабе і шкодныя травы. Апрача сена карысна даваць жарабятам парасьцісканы або пасечаны авёс і сечку. Авёс, сена і сечка ёсьць такі корм, дзякуючы якому добра разаўюцца зубы і правільна растуць усе часткі цела. Зімою жарабяці можна даваць сена толькі, колькі яно можа зьесьці і аўса або ячменю да 3 кілёграмаў (7—8 фунт.) на дзень.

Адсаджаныя жарабяты трэба карміць шэсьць разоў на дзень, бо ў гэты час яны маюць малыя жываты і шмат за раз зьесьці ня могуць, а таму трэба карміць іх часьцей, каб даваны корм адпавядаў патрэбам арганізму. Найлепшая сечка для жарабят ёсьць з канюшыны, бо канюшына мае ў сабе шмат вапны і іншых соляў, якіх у вялікай колькасьці патрабуе малады арганізм дзеля росту касьцей.

Ад першага да трэцьцяга году найлепш жарабята пушчаць на пашу. Калі добрае пашы няма і жарабяты змушаны стаяць у хлеве, то трэба ім даваць шмат зялёнага корму.

На прывязь браць у хлеве маладых жарабят ня можна, бо яны патрабуюць шмат руху. Жарабяты павінны стаяць у сухім хлеве і павінны быць часта падсьціланы. Пры стаеннай гадоўлі жарабят неабходна хоць на дзьве гадзіны выпушчаць на панадворак для руху, што дадатна ўплывае на разьвіцьцё лёгкіх і наагул усяго арганізму.

Жарабяты растуць найбольш у першыя тры гады, а дзеля гэтага ў гэты час трэба як найбольш зьвярнуць увагі на гадоўлю жарабят. Часта аднае пашы для жарабят замала, у такіх выпадках трэба іх падкормліваць.

Далей, абходзіцца з жарабятамі трэба добра, бо ад суровага абходваньня жарабя дзічэе. Добрае абходжаньне, гладжаньне па галаве, карку, сьпіне абуджае ў жарабяці давера, тым часам крыкі, біцьцё робяць яго баязьлівым і злым.

Маладняк коней трэба загадзя прывучаць на ўздэчку, упраж, сядло, падымаць нагу і г. д. Добрае чышчаньне, смачны корм, сьвежае паветра ў хлеве, вольны рух — вось тыя ўмовы, якія спрыяюць добраму разьвіцьцю маладога арганізму.

Слабы, кепска разьвіты маладняк ня варта браць да работы, пакуль не паправіцца. Апрача таго трэба прачышчаць капыты кожны дзень, галоўным чынам у тых жарабят, якія стаяць у хлеве. У праціўным выпадку рагавіна капыта расьце неправільна і можа стаць прычынаю ненармальнага пастою (крывыя ногі). Лішнюю рагавіну ў такіх выпадках трэба абразаць.

Інж.-агр. *П. Орса.*



# СЕНАКОС.

Надыходзіць пара, калі трэба прыступаць да летніх працаў, якімі ў першую чаргу зьяўляецца касьба. Гаспадары нашы добра знаюць цану сена, высушанага ў добрую пагоду, але асаблівых захадаў да таго, каб сабраць сена найлепшай па мажлівасьці якасьці ня прыймаюць. Што-ж тычыцца пары касьбы, то звычайна заўсёды позьняцца, дацягаючы з сенакосамі аж да самага жніва.

Да касьбы прыступаць трэба ў такую пару, каб атрымалася як найбольш сена і найлепшай якасьці. Найбольшую колькасьць сена можна атрымаць, калі касіць траву ў часе цьвіценьня, але тут ніколі ня трэба пазьніцца, бо на колькасьці сена мала прыбудзе, а затое на якасьці яго страціцца шмат (стане сена меней смачным, будзе вызначацца кепскаю страўнасьцю і пажыўнасьцю).

Дзеля ілюстрацыі падаём некаторыя данныя Ritthausena адносна колькасьці (ў працэнтах) бялка і цэлюлёзы (дрэўніны) ў сене канюшыны, скошанай у розную пару:

| | кошана 13 чэрвеня | кошана 23 чэрвеня | кошана 20 ліпня |
|---|---|---|---|
| бялка . . . . | 14 прац. | 11 прац. | 9 прац. |
| цэлюлёзы . . | 32 „ | 33 „ | 40 „ |

З гэтых даных відаць, што чым старэйшую канюшыну косім, тым балей і балей зьмяншаецца колькасьць бялка, які ёсьць найкаштаўнейшым у корме і, з другога боку, — павялічваецца колькасьць мала вартай для аджыўленьня цэлюлёзы (дрэўніны).

Старая трава дзервянее, у ёй адкладаецца больш крэменю, які ставіць адпор траўленьню; колькасьць-жа іншых соляў, (як фосфар, калі, вапна), якія маюць вялікае значэньне, асабліва для жывёлы — маладняку, значна зьмяншаюцца. Досьледы паказалі, што гэтых соляў, пачынаючы ад цьвіценьня аж да дасьпяваньня, зьмяншаецца ў канюшыны аж да 3 працэнтаў.

Пара касьбы ўстанаўляецца стасоўна да стану траваў, якія твораць аснову травастану. Канюшыну трэба касіць, калі аб'явіцца палавіна кветак; люцэрну і канюшыну інкарнатку — калі ў трава-

стане пакажацца першая кветка; эспарцэту і віку — у поўным цьвеце; сэрадэлю — у канцы цьвіценьня.

На мурожных сенажацях трэба прыступаць да касьбы, калі большая частка траў цьвіце; на балотных жа сенажацях, дзе растуць кіслыя і вострыя травы, лепей касіць як найраней, бо тут і так атрымліваецца кепскае сена, а калі яшчэ з касьбою спазьніцца, то яно тады мець будзе меньшую вартасьць за салому.

Ня можам пазьніцца з касьбою ня толькі з тае прычыны, што маладая, скошаная трава дае добрае сена, але і дзеля таго, што калі косім першы раз маладую траву, то яна потым хутчэй адрастае і атрымліваецца балей атавы.

У часе росту расьліны грамадзяць запасныя матэрыялы ў надземных, або падземных органах, якія потым, калі расьліна адцьвіце, скіроўваюцца ў насеньне, такім чынам карані аслабляюцца і ня могуць хутка вытварыць надземныя часткі. Да таго яшчэ рознае пустазельле і атрутныя травы лепей укараняюцца на сенажацях позна кошаных. Травы, якія ня косім у час і даём ім магчымасьць выдаць насеньня, жывуць параўнуючы мала (усяго 4—5 гадоў) і потым гінуць, тады, як травы кошаныя ў час могуць жыць значна болей.

Расьліны, скошаныя ў восень, мусяць мець час на тое, каб маглі адрасьці і ўмацавацца.

Поруч з парою касьбы на якасьць атрыманага сена мае такое, а можа яшчэ і большае значэньне спосаб сушкі.

Сушэньне канюшыны ёсьць досьць труднае, дзеля таго, што далікатныя лісточкі, а яны маюць і найбольшую вартасьць, лёгка абіваюцца. Каб унікнуць значнага абіваньня лісточкаў, ня трэба яе шмат варочаць.

Найлепшы і пэўнейшы спосаб сушэньня канюшыны будзе наступны: скошаную, правяўшую канюшыну (звычайна на другі дзень пасьля касьбы) стаўляюць у маленькія кучкі; кучкі павінны быць стажкаватыя, у сярэдзіне трава не павінна быць сьціснена, а вяршкі абвязваюцца 2—3 калівамі канюшыны. Перад звозкаю, трэба копкі абярнуць, аснова копкі, якая была пры зямлі, павінна быць зьвернута на якісь час да сонца.

Сушэньне сена мурожнага або балотнага ня ёсьць ужо так цяжкай справай, як сушэньне канюшыны. Найважнейшай справай пры сушэньні сена — гэта давясьці яго да такога стану, калі яно можа быць зложана ў вялікія копы. Калі малы дождж падае на такое сена, то няма ніякае бяды, але нават і карысна, бо сена атрымлівае добры пах і страўнасьць. Яно тагды фэрмэнтуе, вытвараюцца розныя алеі. Алеі гэтыя пабуджаюць у жывёлы смак.

Такога добрага араматычнага сена мы не атрымаем, калі будзем сушыць яго разьбітым і калі ня будзем яго складаць яшчэ ня зусім сухое ў копкі.

Што-ж тычыцца вялікіх дажджоў, то яны вельмі шмат шкодзяць, бо яны выпалоскваюць найпажыўнейшыя часткі. Нападаюць тады на сена плесьні і бактэрыі, што вядзе за сабою страту крахмалу і цукраў, а бялок пераходзіць у формы, якія расчыняюцца ў вадзе і такім чынам трацяцца.

Найлепшае араматычнае сена можна дасягнуць наступным спосабам:

Як трава павяне (прыблізна пасьля 10 гадзін па скашэньні), складаюць яго ў малыя копкі. Сена ў такіх копках трохі сагрэецца ад таго, што разаўецца вялікая колькасьць бактэрыяў. Павышэньне тэмпэратуры патрэбна, калі хочам, каб сена мела добры арамат. На другі дзень копкі раскідаюцца, сена сушыцца і потым вечарам складаецца ў большыя копы і ў такім выглядзе сена пакідаецца на дзень або два, потым ізноў сена раскідаецца, сушыцца і складаецца ў вялікія копы, у якіх яно прарабляе дадатковую фэрмэнтацыю і дасыхае, пасьля чаго праз дні два бывае цалком гатова.

Калі на скошанае сена пападае дождж, то тады трэба пакінуць на дзень ці два (а ў канюшыны і больш) пракосы нярухома, каб скошаная трава добра высахла з аднаго боку.

У мяйсцовасьцах, дзе падаюць часта дажджы, лепей сушыць сена на астрожках, пірамідах, казлах і трыногах. Пры такім спосабе сушэньня сена ня можна яго вешаць на гэтых прыстройках мокрым і трэба старацца, каб трава ня спушчалася да самае зямлі і, каб у сярэдзіне стварыўся прастор, да якога мела-б добры доступ паветра.

Пасьля збору сена мурожнага ці канюшыны карысна глебу праветрыць. На полі гэта можа быць выканана бараною, а на сенажацях лепей скарыфікатарам, а калі ёсьць мох, то пушчаецца сенажатная барана.

*З. К.*



# Саманныя будынкі.*)

(Працяг).

## 3 Як скласьці сьцены.

Сьцены складаюць з саманнай цэглы таксама, як і з натуральнай паленай цэглы. У кожным разе саман кладзецца ў вядомым парадку такі чынам, каб сточкі верхняга раду ня прыхадзіліся проціў сточак ніжняга раду; гэта завецца класьці ў перавязку.

Пры складаньні сьцяны трэба добра прыглядацца, каб цэгліны лажыліся роўна і ня схіляліся ні ў адзін бок (асабліва на двор); дзеля гэтага карыстаюцца шнуром, ватэрпасам і адвесам.

Саманныя сьцены можна рабіць featuresрознай таўшчыні. Але ў нашым краі хатнія сьцены лепш усяго рабіць у 15—16 вяршкоў таўшчыні. Дзеля гэтага кладуць 10-вяршковы саман у паўтары цэгліны або 8-мі

*) А. Бараноўскі — „Змаганьне з пажарамі".

вяршковы — у дзьве цэгліны. Таньчэйшых сьцен рабіць нельга, бо зімою ў вялікія маразы сьцены будуць прамярзаць і заўсёды будуць мокрыя. У халодных будынінах, як хлявы або пуні, сьцены можна рабіць і таньчэйшымі, напрыклад, у 12 вяршкоў. У такіх выпадках ужываюць саман у 8 вяршкоў і кладуць сьцяну ў паўтары цэгліны. Калі-б хто пажадаў злажыць сьцяну ў 8 вяршкоў таўшчыні, то ў такім выпадку раіцца нутраныя сьцены, на якіх будуць ляжаць бэлькі, складаць усё-ж такі ў 12 вяршкоў (пры 8-мі вяршковым самане — у паўтары цэгліны).

Саман кладуць на гліне з пяском і вельмі дробнаю саламянаю сечкаю або мякінаю. Гліна дзеля гэтага робіцца рэдкая, каб лёгка выціскалася з-пад цэглін. Цэгліны, намачыўшы, трэба шчыльна прыпусьціць адну да аднэй, каб сточкі паміж іх былі найвузейшыя, іначай будыніна вельмі многа асядзе. Налажыўшы поўны рад, зьверху трэба заліць яго зусім рэдкаю глінаю.

## 4. Падмуроўка.

Саманныя сьцены, асабліва калі мы будуем хату, заўсёды трэба класьці на падмуроўцы. Калі сьцены пачаць класьці проста на зямлі, дык будыніна будзе асядаць у грунт ня ўсюды роўна, сьцены патрэскаюцца, а ад вялікіх шчылін уся будыніна можа разбурыцца; апрача гэтага, па саманнай цэгле ад зямлі будзе падымацца вільгаць, будыніна заўсёды будзе вільготная.

Пачынаючы закладаць падмуроўку, перш-на-перш трэба выкапаць раўчук глыбінёю да самага цьвёрдага грунту і дно добра ўтрамбаваць (карысна дно ўтрамбаваць каменным друзгам). Глыбіня раўчука заўсёды павінна быць большая, чым прамярзае зямля, гэта каля 1 ці 1½ арш. глыбіні. Падмуроўку, якая зьяўляецца ніжняю часткаю сьцяны ў зямлі, лепей за ўсё класьці з апаленай цэглы або з дробнага каменя на вапне. Для невялікай будыніны падмуроўку можна класьці з каменя без вапны, і толькі зьверху заліць рэдкаю вапнаю або затаўчы і замазаць глінаю.

Калі няма дзе ўзяць дробнага каменя, падмуроўку можна рабіць з каменнага друзгу (з бітага каменя), які пасыпаюць пластамі і ўсякі пласт утрамбоўваюць, а верхні заліваюць вапнаю. Калі-ж няма як нарабіць друзгу, дык падмуроўку можна рабіць з жарствы ў 1 або 1½ арш. глыбіні. У рэшце, падмуроўку можна зрабіць з тае-ж самае саманнае цэглы, і ўсё-ж такі гэта будзе лепей, чым зусім без падмуроўкі. Але ў такім выпадку (калі падмуроўка з саману) дзеля таго, каб вільгаць не праходзіла ў сьцены, наверх падмуроўкі трэба налажыць пласт такога матэрыялу, які-б не прапусьціў вільгаці. Гэты пласт можна выкладаць з бяросты ў 2—3 рады або толю., якім крыюць стрэхі. Пры гэтым лісты толю ў перэвязь сточак або ў адзін рад, закладаючы берагі лістоў адзін на другі цалі на дзьве. Але трэба ведаць, што толь кладуць заўсёды падліўшы гарачай і густой смалы.

Наагул сказаўшы, пласт бяросты або толю, калі ёсьць магчымасьць, трэба класьці заўсёды, каб адгарадзіць сьцяну ад падмуроўкі. ці каменнай ці цаглянай. Тады сьцены ніколі ня будуць вільгатнець

Калі падмуроўка каменная або з цэглы, дык яе трэба выводзіць вышэй зямлі хаця-б на паўаршына, інакш сьцяна будзе падмакаць зьнізу. Можна таксама ніжнюю частку сьцяны аблажыць апаленаю цэглаю з надворку. Калі падмуроўка зроблена з каменнага друзгу, жарствы ці саману або зусім няма падмуроўкі, дык абавязкава трэба каля сьцяны зрабіць прызбу. Прызбу лепш рабіць з гліны і скацістаю ад сьцяны, а ўнізе пракапаць раўчук, каб сьцякала дажджавая і сьнегавая вада.

## 5. Вокны і дзьверы.

Дзіркі для вушакоў і ваконных шуфляд робяць у той час, як муруюць сьцены. Дамураваўшы сьцяну да патрэбнай вышыні, ставяць дзераўляныя скрынкі і муруюць далей. Вымураваўшы вышэй пастаўленых скрынак, наверх кладуць таўстыя дошкі канцамі на мур, каб яны заходзілі па чвэрці аршына на сьцяну, і тады па дошках муруюць вышэй. Дошкі кладуць трошкі вышэй пастаўленых скрынак, каб паміж дошкаю і скрынкаю засталася шчыліна ня менш як на таўшчыню цэгліны. Можна таксама скрынкі ставіць на клінох, тады паміж дошкаю і скрынкаю ня трэба пускаць шчыліны. Гэта робіцца дзеля таго, каб сьцены не завісалі, як будуць асядаць, і каб над вокнамі і дзьвярыма ня было ад гэтага шчылін. Сьцены асядаюць блізка кала чвэрці аршына — ад 3 да 4 вяршкоў. Калі вушакі пастаўлены на клінох, дык іх час-ад-часу паслабляюць, а потым зусім вымаюць.

Бывае, што сьцены асядаюць як мае быць, а ўверсе застаюцца шчыліны, тагды іх закладаюць глінаю.

Падаконьнікі робяць спадзістымі, як у сярэдзіну, так і на панадворак, каб вада не сьцякала па сьцяне і не размочвала. Знадворку падаконьнікі пакрываюць бляхаю. Але лепей за ўсё падаконьнікі бэтонавыя (жарства з цэмантам).

Вокны трэба рабіць з падвойнымі (дубальтовымі) рамамі; паміж рам павінна быць ня менш 4 вяршкоў.

## 6. Столь і іншае.

Столь найлепш рабіць плецяніковую, а зьверху і зьнізу абмазваць глінаю, перамешанаю з саломаю. На абмазаную столь, як яна высахне, насыпаюць зямлі ці пяску.

Добра, калі ёсьць магчымасьць зрабіць падлогу з дошак, а калі гэтага зрабіць нельга, дык робяць проста з гліны. Дзеля гэтага бяруць сырую гліну, роўна выкладаюць і добра ўтрамбоўваюць.

Бэлькі кладуць ня проста на саман, а падкладаюць кругам вянок берваньня, якія па вуглох зьвязваюць. У невялікіх будынках пад канцы бэляк кладуць ці кавалкі таўстое дошкі, ці якія-небудзь іншыя падкладкі, каб сьцены ўверсе не псаваліся ад вільгаці, стрэхі трэба рабіць як мага больш спадзістыя. Стрэхі, калі з якое-небудзь прычыны нельга зрабіць чарапічныя, найлепш рабіць гліняна-саманыя. Пры тым,

як рабіць такія стрэхі, будзе гутарка ўперадзе. Саламяных-жа стрэх ніколі не варта рабіць, бо яны патрабуюць многа саломы, дорага каштуюць і небясьпечны ў часе пажару.

## 7. Тынкаваньне.

Саманныя сьцены можна і ня тынкаваць, даволі замазаць глінаю і пабяліць. Звычайна абмазка з гліны на саманных сьценах трымаецца кепска; сьцены вымазваюцца глінаю з пяском, з авечым гноем і конскімі валасамі. Але лепш тынкаваць такім спосабам: 1) кусочкі бітай цэглы ўтыкаць як мага гусьцей у пазы між цэглінамі, 2) убіваюць у пазы драўляныя калочкі або 3) абіваюць лучынамі ў клетку, а затым ужо абмазваюць глінаю. Лучыну прыбіваюць да драўляных слупкоў, што ўмазваюцца праз два рады цэглы пры мураваньні сьцен, або проста да сьцяны тонкімі, даўгімі, у паўтара вяршка, цьвікамі. Тынкаваць будыніну можна толькі тады, як яна зусім асядзе, гэта аж на другое лета, іначай тынк увесь асыпецца ў першую зіму.

---

Як відаць з вышэйсказанага, справа саманнага будаўніцтва вельмі простая: ня трудна нарабіць саманнай цэглы, ня трудна з яе змураваць сьцены, калі ведаць, як усё гэта робіцца. Кожны, хто захоча і пастараецца, здолее справіцца з гэтаю работаю.

Саманныя будынкі, збудаванныя так, як тут апісана, з добра зробленага і добра высушанага саману, вызначаюцца моцнасьцю, даўгавечнасьцю, цеплатою і негаручасьцю.

Саманныя сьцены таўшчынёю ў 13 вяршкоў, калі яны на падмуроўцы з добра высахшай цэглы, трымаюць цяпло таксама, як-бы сьцяна з апаленай цэглы таўшчынёю ў 16 вяршкоў. Жывучы ў саманнай хаце, з чарапічнаю або гліняна-саламянаю страхою, з плецяніковаю абмазанаю столью — пажару можна не баяцца: такая будыніна не займецца ад суседняга пажару і ад свайго не згарыць.

Ніхто ня будзе спрачацца, што саманная будыніна таней абойдзецца, чым з апаленай цэглы ці дзерава. Матэрыялы на гэтыя бунынкі, можна лічыць, нічога не каштуюць, работа простая і спадручная. Саманную цэглу можна гатаваць загадзя, не спяшаючыся, у гуляшчы час нават за некалькі год да будаваньня. Мураваць сьцены можна хутка, адразу. Але затое, добра збудаваная саманная будыніна можа стаяць болей 100 год.

Калі рабіць сьцяну ў паўтары цэгліны з 10 вяршковага саману, то на адзін квадратны сажань сьцяны патрэбна будзе 234 цэгліны саману. На хату з сяньмі і камораю ў 15 на 18 аршын, з падмуроўкаю з саману, з дзьвума нутранымі сьценамі ў адну цэгліну патрабуецца да 5 з пал. тысяч штук саману. Лік ня вельмі вялікі. Селянін мае з свае гаспадаркі салому, сваіх работнікаў і свае коні, а таму будоўля хаты абойдзецца зусім танна.

*А. Бараноўскі.*



# Дробныя парады.

## Прымус для нішчаньня асоту (Cirsium).

З першага чэрвеня ўвайшло ў моц распараджэньне Мін. Земляробства з дня 27 сакавіка 1931 г., аб нішчаньню асоту. Паводле гэтага распараджэньня кожны, хто ўжыткуе грунты сам або пад чыім распараджэньнем грунты знаходзяцца, мусіць асот з карэньнямі вырваць або іншым спосабам нішчыць так, каб гэту расьліну з свайго грунту сагнаць ці ў крайнім выпадку не дапусьціць да цьвіценьня.

Хто-ж гэтага распараджэньня ня будзе выконваць, таму накладаецца кара ад 10 да 10.000 зл., або 6 тыдняў арышту.

Як нішчыць асот? — Асот вельмі шкаднае пустазельле. Для свайго росту бярэ шмат пажывы і вады, а таксама займае многа месца. Размнажаецца ён як насеньнем, так і карэньнямі, якія глыбака сягяюць у зямлю. Простаю воркаю зьнішчыць асот нельга. Барацьба з ім павінна вясьціся двума спосабамі: не дапусьціць, каб мог утварыць насеньне і нішчыць карэньне. На межах і сенажацях не дапусьціць яго да цьціценьня скошваньнем і вырываньнем. На палях яго трэба выкопваць і вырываць (калі зямля вільготная можна вырваць з каранямі).

У часе цьвету пажыўныя складнікі ў кожнай расьліне ідуць з караня да цьвету дзеля ўтварэньня насеньня і ў гэты час карэньне ў расьлін бывае найбольш аслабленае. Дзеля гэтага найлягчэй зьнішчыць асот такім спосабам: калі расьліна асоту толькі што выдасьць першую кветку, трэба ў гэты час асот глыбака падкапаць і вырваць.

На палях, дзе шмат асоту, і іншага пустазельля, трэба часьцей сеяць асыпныя, бо пры палоньні іх нішчыцца найбольш пустазельля.

## Збор канюшыны.

Там, дзе з прычыны частых дажджоў нельга сабраць канюшыннага сена, рэкамэндуецца звозіць канюшыну недасохшую, каб канюшына, зложаная ў стазе ці ў сьцірце, не псавалася, трэба яе складаць пластамі ў перамежку з пластамі саломы (салома павінна быць здаровая, добрая, лепей з ярыны). Для накладаньня сьціртаы бярэцца аднолькавая колькасьць як канюшыны, так і саломы. Да таго канюшына яшчэ пасыпаецца сольлю (3—3 з пал. кілёграмы на воз). Так уложаная канюшына не сапсуецца, а ў дадатак да таго салома набярэцца запаху канюшыны і са смакам зьядаецца жывёлаю.

## Як лячыць уздутую жывёлу.

Часта здараецца, што ад зялёнае канюшыны жывёлу ўздувае (пушыць). Уздуць можа жывёлу і іншая маладая расьліннасьць. Асабліва часта здараецца ўздуцьцё, калі зялёны корм ці паша мокрыя.

Уздутую жывёлу ня можна моцна ганяць. Трэба яе паставіць так, каб пярэднія ногі стаялі вышэй за заднія; у сярэдзіну ўліваецца 2 літры вапеннай вады або лыжку аманьяку (нашатыру), разбаўленага ў літры вады. У рот

укладаецца перавясла або драўляны калок, канцы якога прывязваюцца к рагам. Робіцца гэта дзеля таго, каб быў адчынены рот. Добра яшчэ палівать з левага боку бруха з самага верху халоднаю вадою і ўціскаць яго.

Лябараторыя хімічная „Самос“ у Цешыне выпусьціла на рынак новы сьродак дзеля ратаваньня ўздутае жывёлы пад назовам „Kreola“. Крэоля ёсьць парашок, які распушчаецца ў бутэльцы вады і ўліваецца ў горла ўздутай жывёле. Колькасьць парашку абазначана на ўпакоўцы.

Як цьвердзіць Сьлёнскі зьвяз рольнікаў, парашок „Крэоля“ пры выпрабаваньні даў добрыя вынікі.

Пры слабым ўздуцьцю вышэйпамянёных захадаў цалком хапае, але-ж пры сільнейшым уздуцьцю бывае патрэбным прабіваць бруха з левага боку тракарам або ўжыць іншых прыладаў, але аб гэтым астатнім падамо другім разам.

## Запаленьне ў курэй яйцаводу ад спажыцьця „бабак“ (Libellula).

Запаленьне яйцаводу ў курэй выклікаецца рознымі прычынамі. Аднэю з гэтых прычынаў ёсьць спажыцьцё куркаю бабак. Бабкі маюць часта ў сабе асаблівага паразіта і калі курка такую бабку зьесьць, то паразіт гэны потым падзе да яйцаводу і выклічэ запаленьне.

Прычынаю, што куры нясуць „выліўкі“ (яйца без шкарлупак) і бывае часта запаленьне яйцаводу. Да таго ад запаленьня курка можа цалком зьгінуць.

Бабкі першы раз зьяўляюцца ў траўні і чэрвені, а другі раз у верасьні.

Дзеля таго, каб куры меней хварэлі на запаленьне яйцаводу, ня трэба ў гэтыя месяцы выпушчаць курэй пакуль не зыйдзе раса і пасьля дажджу, бо тады бабкі ня лётаюць, дзеля таго, што маюць мокрыя крыльцы і тады найбалей ядуць іх куры.

Найбалей гэтая хвароба курэй пашырана ў вільготных мяйсцовасьцях.

## Нішчэньне капустнай гусьвіцы.

Для нішчаньня капустнае гусьвіцы ёсьць вельмі просты сьродак, які кожнаму гаспадару можна лёгка прыгатаваць.

На 100 частак (на вазе) вады бярэцца 3 часткі кухоннае солі і 2 часткі вапны і гэтай мешанінай апрысківаецца ў вечары (два вечары падрад, калі гусьвіцы маладыя, іначай апрысківаць трэба больш, але гэта можа тады зашкодзіць расьліне).

## Нішчэньне капустнай тлі.

Рашчына для нішчэньня капуснай тлі прыгатаўляецца наступна:

На 1000 частак вады бярэцца 50 частак зялёнага мыла і 30 частак тытунёвага пылу; мешанінай гэтай скрапляюцца ніжнія і нападзенныя часткі лісьцяў. На другі дзень расьліны апрысківаюцца чыстаю вадою, каб змыць зьгінуўшыя паразіты.



# З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ.

— **Надзвычайны Сход Бацькаўскага Камітэту пры Віл. Белар. Гімназіі.** 28 мая быў склікану надзвычайны агульны сход Бацькаўскага Камітэту. Пры новых выбарах у склад Бацькаўскага Камітэту — апрача грам. Астроўскага, па старому астаўшагася яго старшынёй, — увайшлі: гр. гр. Кароль, Багдановіч, Падагель і кс. Станкевіч. Кандыдаты — рэдактар Сіняўскі і гр. Кепель.

— **Выпуск матурыстаў Віленскае Беларускае Гімназіі.** У сёлетнім годзе атэстаты сьпеласьці — пасьля здачы экзаменаў перад урадавай камісіяй — з агульнае лічбы **25** дапушчаных да экзаменаў вучняў і вучаніцаў Віленскае Беларускае Гімназіі атрымалі **21**. Спаміж здаўшых адначасна экзамены экстэрнаў памысна здала экзамены і атрымала атэстат толькі **адна** экстэрністка.

Атрымалі матуру наступныя вучні: 1) Астроўскі Віктар, 2) Багдановіч Глеб, 3) Будзька Часлаў, 4) Бурак Язэп, 5) Быхавец Аўгень, 6) Давідовіч Іван, 7) Касяк Іван, 8) Чартовіч Б., 9) Лукашэвіч Раіса, 10) Мамчыц К., 11) Міхалевіч Наталія, 12) Парфенаў Ул., 13) Пяцюкевіч Віктар, 14) Радзюк П., 15) Рубін Васіль, 16) Шчасны Міхал, 17) Смаленскі Валентын, 18) Стэповіч Бэрнард, 19) Шутовіч Ганна, 20) Татарыновіч Міхаліна, 21) Тышкевіч Аўгень.

З экстэрнаў атрымала матуру толькі Сіняўская Н.

У суботу, 13 чэрвеня, матурысты ладзілі ў Гімназіі сваю разьвітальную вечарыну і спэктакль.

— **Матуральныя экзамены ў Наваградзкай Беларускай Гімназіі** распачаліся 11-га траўна. Пісьменныя экзамены скончыліся 17 траўня, вусныя распачаліся каля 10 чэрвеня. Да экзаменаў прыступіла 13 абітур'ентаў, выключна вучняў з Наваградзкай Гімназіі. Старшынёю Дзяржаўнай Экзаменацыйнай Камісіі вызначаны Візытатар школ п. А. Нарвойш, у часе пісьменных экзаменаў заступаў яго п. Баньскі, дырэктар мясцовай дзяржаўнай гімназіі. Абітур'енты ў гэтым годзе выняткова здаюць звычайны матуральны экзамен.

— **Справа Бран. Тарашкевіча.** Мясцовыя газэты даведаліся, быццам справа былага правадыра Грамады Бр. Тарашкевіча мае разглядацца ў Віленскім Акружным Судзе ў канцы чэрвеня б. г.

— **Беларускае Выдавецкае Таварыства** выдала паштовыя адкрыткі з партрэтам „Цёткі". Партрэт зроблены літоўскім мастаком Варпасам. Выкананьне вельмі мастацкае. Адна адкрытка каштуе 30 грошаў. Купіць можна ў кнігарні Беларускага Выдавецкага Таварыства — Вільня, Вастрабрамская вуліца № 1.

— **Ліквідацыя „Хатняга промыслу".** Урад коопэратыву „Хатні промысл у Вільні" склікае першы ліквідацыйны сход на 3 ліпня г. г. а 15 гадз. у кватэры гр. А. Каўша (Летняя вул. № 7). Парадак дня: 1. Справаздача ўраду з дзеяльнасьці за 1928, 29, 30 і 31 г.г., 2. Пастанова аб ліквідацыі коопэратыву, 3. Выбары ліквідацыйнае камісіі.

Другі ліквідацыйны сход з гэтым самым парадкам дня адбудзецца 17 ліпня г. г.

— **„Бібліотэка Школьніка“.** Вышла з друку новая дзіцячая кніжка з сэрыі „Бібліотэка школьніка“ пад назовам „Лясныя хаткі“. Кніжка вельмі цікавая па зьместу і мае вельмі багатыя ілюстрацыі. Каштуе 30 грош. без перасылкі. Перасылка аднае кніжкі будзе каштаваць 10 гр.

Купіць можна ў Вільні ў кнігарні Беларускага Выдавецкага Таварыства — Вільня, Вастрабрамская вуліца № 1.

Кожная беларуская сям'я, у якой ёсьць дзеці школьнага ўзросту, мусіць выпісваць беларускую дзіцячую часопісь „Заранка“, а таксама павінна мець усе дзіцячыя кніжкі з „Бібліотэкі школьніка“.

„Заранка“, а таксама „Бібліотэка школьніка“ зьяўляюцца адзінаю крыніцаю, з якое беларускае дзіця можа навучыцца чытаць і пісаць у сваёй роднай мове. Вучыць-жа сваіх дзяцей граматы ў роднай мове — гэта наш абавязак, як беларусаў, як грамадзян і як бацькоў. Дык не забываймося-ж аб гэтым і карыстаймо з гэтае адзінае магчымасьці.

— **„Жаноцкая Справа“.** Вышаў № 3 „Жаноцкае Справы“. Зьмест вельмі багаты і цікавы.

— **Лекцыі па сельскай гаспадарцы.** У Горадзенскім гарнізоне арганізаваны лекцыі па сельскай гаспадарцы для жаўнераў і сялян. Прачытаны лекцыі — аб камасацыі, аб гадоўлі жывёлы, лугаводзтва, аб зямляробскай коопэрацыі, аб хваробах жывёлы, аб культуры зямлі, аб пчалярстве.



# Да ведама падпішчыкаў і чытачоў „Сахі“.

З ПРЫЧЫНЫ ТАГО, ШТО НЕКАТОРЫЯ НАШЫЯ СУПРАЦОЎНІКІ ВЫЯЖДЖАЮЦЬ НА ЛЕТА З ВІЛЬНІ НА ПРАВІНЦЫЮ ДЛЯ ІНШЫЕ ПРАЦЫ, ЧАСОПІСЬ „САХА“ ЛЕТАМ БУДЗЕ ВЫХОДЗІЦЬ РАДЗЕЙ, АБО Ў ПАМЕНШАНЫМ РАЗЬМЕРЫ.

**РЭДАКЦЫЯ.**

Адказны Рэдактар: М. ІЛЬЯШЭВІЧ. Галоўны кіраўнік: інж.-агр. С. БУСЕЛ.
Выдавец: Цэнтральны Саюз Бел. Культ.-Пр. і Гасп. Арганіз. і Інстытуцыяў.

# БЕЛАРУСКАЯ ГІМНАЗІЯ Бацькаускага Камітэту

## Ў ВІЛЬНІ [Вострабрамская 9].

**Гімпазія коэдукацыйная 8-мі кл. гуманістычнага тыпу**

**З правамі Дзяржаўных Гімназіяў.**

УСТУПНЫЯ ЭКЗАМЕНЫ Ў ГІМНАЗІЮ Ў 1931 г. У ВОСЕНІ АДБУДУЦЦА: 30 ЖНІЎНЯ, і 1 і 2 ВЕРАСЬНЯ ЎВА ЎСЕ КЛЯСЫ АПРАЧА VIII. АПОШНІ ТЭРМІН ПАДАЧЫ ЗАЯВАЎ ДА 20 ЖНІЎНЯ 1931 ГОДУ.

Жадаючыя паступіць у 8 кл. павінны складаць паданьні ў Кураторыюм Віленскага Школьнага Вокругу праз Дырэкцыю Гімпазіі.

УВАГІ: 1) Да заявы павінны быць далучаны: а) мэтрыка аб нарадженьні, б) школьнае пасьведчаньне (тэй школы дзе вучыўся), а, калі з хатняй падгатоўкай, то пасьведчаньне ад гм'ны, ці паліцыі, а то сьвяшчэньніка, або ксяндза і в) лекарскае пасьведчаньне аб прышчэпе воспы і аб агульным стане здароўя.

2) У I-ую кл. прымаюцца ад 10 да 12 гадоў, у II— ад 11 да 13 гадоў, у III — ад 12 да 14 і г. д. Дзеці, перарослыя гэтыя нормы, могуць быць прынятыя ў адпаведныя клясы, калі Пэдагогічная Рада Гімназіі прызнае ўважлівымі тыя прычыны, якія выклікалі гэтае спазненьне. Прычыны гэтыя павінны быць паказаны ў заяве.

3) Уступная плата за экзамены ўва ўсе клясы ад 1 да 7 уключна — 10 зл., у 8-ую-ж кл. — 20 зл.

Плата за навуку: у I кл. — 70 зл. за год, у II — 100 зл., у III — 120 зл., у IV — 140 зл., у V — 170 зл., у VI — 190 зл., у VII — 220 зл. і ў VIII — 260 зл. за год.

Пры Гімназіі існуюць інтэрнаты для хлапцоў і дзяўчат з платаю 50 зл. у месяц на ўсім утрыманьні апрача вопраткі, абуцьця і бялізны насільнае і пасьцельнае, якую ўсе вучні(ніцы) павінны мець сваю ў поўнай меры, парадку і чыстаце. Тым з вучняў, якія ў 1-ай чвэрці школьнага году пакажуць сябе адносна навукі і паводзенья здольнымі, плата за ўтрыманьне ў інтэрнаце згодна з заявамі іх бацькоў-апякуноў будзе паменшана, але да заявы аб паменшаньні платы павінна быць далучана пасьведчаньне гміны аб незаможнасьці.

ДЫРЭКЦЫЯ.

